Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 8 (жнівень), 2015

# Мяжа



## Вярхоўны суд вынес пратэст на рашэнне абласнога суда

(старонка 13)

## ЗЬМЕСТ

## Задзейнічаны адміністрацыйны рэсурс

Сябру ініцыятыўнай групы Таццяны Караткевіч Віталю Каліноўскаму стаў вядомы факт збору подпісаў за Аляксандра Лукашэнку тэхработнікамі і настаўнікамі Лунінецкай гімназіі.

Іх абавязаў гэта рабіць дырэктар Аляксандр Грушэўскі, хоць яны не маюць на гэта права, бо не з'яўляюцца сябрамі ініцыятыўнай групы Лукашэнкі, кажа Віталь Каліноўскі: - Тэхнічкі, настаўніцы і ўвесь штат Лунінецкай гімназіі незаконна збіраюць па ўсіх вёсках подпісы за Лукашэнку. Дырэктар гімназіі выклікаў да сябе настаўнікаў і тэхнічны персанал і сказаў, каб там, дзе яны жывуць, сабралі подпісы за Лукашэнку, кожны не менш чым 16 подпісаў.

Чытай больш на: http://www.racyja.com/hramadstva/dyrektar-gimnazii-abavyazau-nastauni/

Паводле Віталя Каліноўскага, пры зборы подпісаў за Лукашэнку ў Лунінецкім раёне задзейнічаны адміністрацыйны рэсурс не толькі ў гімназіі.

Чытай больш на: http://www.racyja.com/hramadstva/dyrektar-gimnazii-abavyazau-nastauni/

Рабочыя прадпрыемства па вырабу электрарухавікоў "Палессеэлектрамаш" у Лунінцы адмовіліся падпісвацца па загаду кіраўніцтва за Аляксандра Лукашэнку. Яны свае подпісы аддаюць патэнцыйнаму кандыдату ў прэзідэнты Таццяне Караткевіч, кажа сябра ініцыятыўнай групы Караткевіч Віталь Каліноўскі: - Казалі , што кіраўніцтва іх застаўляе за Лукашэнку падпісвацца. Але яны адмовіліся і прыйшлі да мяне, бо не хочуць ніякага Лукашэнку. Адна з работніц гэтага прадпрыемства ўчыніла сварку ў адміністрацыі завода з-за таго, што яе прымушаюць падпісвацца, і сказала, што ідзе да Каліноўскага падпісвацца за Таццяну Караткевіч.

Чытай больш на: http://www.racyja.com/palityka/rabochyya-u-lunintsy-admaulyayutstsa-padpis/

## Здек над фермерам Аляксандрам Бяльчуком працягваецца

Фермер Аляксандар Бяльчук, які адбыў свой тэрмін арышту за непадпарадкаванне супрацоўніку міліцыі і нанясенне цялесных



пашкоджанняў, зноў павінен бараніць сваю годнасць.

Нагадаем, што міліцыянт Неліновіч абвінаваціў фермера Бяльчука ў тым, что той яго пабіў. Фермер Бяльчук сьцвяржае, што ўсё пачалося з самаробнага трактара, які прыглянуўся начальніку районага аддзялення міліцыі, які даў загад адабраць трактар.

Адзел УУС выплаціў страхоўку міліцыянту Неліповічу як пацярпеламу пры выкананні свайго прафесійнага абавязку. У сувязі з чым УУС падаў у суд на фермера Бяльчука Аляксандра, каб кампенсаваць страхавыя страты на міліцыянта Неліповіча, гэтым разам Аляксандр Бяльчук акрамя адбыцця арышту павінен яшчэ кампенсаваць грашовую суму адзелуУУС.

Са слоў пракурора Маларыцкага раёна слуханне справы пачнецца ў Маларыцкім раёным судзе 4 верасеня 2015 а 10 гадзіне.

## Падпішаш, можаш і ў “псіхушку” патрапіць

Падчас праходжання медычнай камісіі ў псіханеўралагічным і наркалагічным дыспансерах кіроўцы транспартных сродкаў сутыкаюцца з падманам з боку работнікаў гэтых устаноў.



Калі кіроўца аплочвае паслугу па прахаджэнні медычнай камісіі замест квітанцыі аб аплаце паслуг дадзенай паслугі яму “падсоўваюць” дамову па аказанні платных медыцынскіх паслуг.

У дамове напісана, што ««Исполнитель» имеет право определять необходимость и сроки госпитализации, устанавливает объем и характер исследования и лечения».

Кіроўцу патрэбна атрымаць даведку, што ён на ўліку не стаіць на ўліку ў вышэйзгаданых дыспансэрах, але, калі падпіша дамову, можа і ў псіхушку патрапіць.

Не падпісвайце дамовы, паважаныя суайчннікі, пакуль уважліва яе прачытаеце.

Ці за такімі паслугамі вы звяртаецеся?

## Малая перамога для малога

Віншуем Аляксандру Гурыну і яе сыночка Яраслава з тым, што аддзел адукацыі выдзяліл месца ў дзяцячы садок побач з домам.

Нагадваем, што Аляксандра Гурына, якая жыве па вуліцы Стафеева ў Берасце прасіла накіраваць сваё дзяццё ДУА «КПК яслі-сад – пачатковая школа № 6 г. Брэста», які знаходзіцца ва двары яе дома». Работнік аддзела адукацыі адмовіла Гурынай Аляксандре ў выдзяленні месца для сына ў згаданым месцы і прапанавала месца ў дзіцячыя сады, якія знаходзяцца далёка ад месца жыхарства маладой сям’і. З прапанаванымі варыянтам маладая маці не пагадзілася. Аляксандра Гуріна звярнулася па дапамогу ў прафсаюз РЭП у якім працуе. Спатребілася два хадатайства да главы адміністрацыі Маскоўскага раёна г.Брэста ад старшыні прафсаюза Фядыніча Г.Ф. і нарэшце Гурына А. атрымала накіраване ў ДУА «КПК яслі-сад – пачатковая школа № 6 г. Брэста».

3 верасня 2015 года Яраслаў Гурын пойдзе ў садочак побач з

домам. Як паведамілі Аляксандре ў аддзеле адукацыі Маскоўскага раёну месца з’явілася таму, што садочак доукомплектовалі звыш нормы.

## Незалежнасць Беларусі

25 жніўня 1991 г., следам за Ўкраінай, Вярхоўная Рада БССР надала Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статус канстытуцыйнага закону. Менавіта ў гэты дзень была адноўлена нашая дзяржаўнасць і суверэнітэт!

Ўспомнім як гэта было.

Сэсія была скліканая на патрабаваньне дэпутатаў Апазыцыі БНФ, да якіх далучыліся іншыя дэмакратычныя дэпутаты (усяго за скліканьне сэсіі выказалася 84 дэпутаты), і працавала 24-25 жніўня. Прэзыдыюм ВС прапанаваў павестку дня з двух пунктаў — «Аб бягучым моманце» і «Аб саюзным дагаворы», апазыцыя БНФ унесла пакет прапаноў, сярод якіх былі галоўнымі абвяшчэньне незалежнасьці, пытаньне аб адказнасьці кіраўніцтва ВС за бязьдзеяньне ў дні путчу, аб забароне КПБ-КПСС, аб стварэньні ўласнага войска.

Праз некалькі тыдняў, у верасьні 1991-га, Вярхоўны Савет прыняў рашэньне аб назове краіны (замест БССР — Рэспубліка Беларусь) і наданьні бел-чырвона-беламу сьцягу і гербу «Пагоня» статусу дзяржаўных сымбаляў.

«Мы зь вялікім шанаваньнем павінны памятаць і адзначаць усе падзеі, зьвязаныя са змаганьнем і сьцьвярджэньнем нашае дзяржаўнае незалежнасьці, — піша у сваім артыкуле тагачасны старшыня Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк. — Гэта найперш 25 Сакавіка 1918 года, сьвята, якое мы адзначаем як Дзень Волі і абʼяўленьне незалежнасьці БНР. Гэта 27 ліпеня 1990 года — дзень абʼяўленьня Дэкляарацыі аб незалежнасьці БССР, якая была прынятая Вярхоўным Саветам у выніку ўдалага выкарыстаньня гарбачоўскай палітыкі і дзякуючы найперш рацыянальнай і ахвярнай барацьбе дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Гэта нарэшце — вянец усіх падзей — дасягненьне рэальнай незалежнасьці Беларусі 25 Жніўня 1991 года.

Паводле http://inbelhist.org/22-gady-tamu-25-zhni%d1%9enya-1991-g-belarus-yurydychna-stala-nezalezhnaj/

**Са святам беларусы! Жыве Беларусь!**

## На выставе аб стварэнні трохмерных аб'ектаў

27 жніўня ў абласной бібліятэцы імя М. Горкага ў Брэсце ў рамках правядзення выставы “Неведомая Амэрыка”адбылася дэманстравацыя высокатэхналагічных прылад. Удзельнікі змаглі паспрабаваць сябе ў стварэнні трохмерных аб'ектаў пры дапамозе 3D-друкаркі і 3D-асадкі Doodler. Творчую майстэрню правёў супрацоўнік Інфармацыйнага цэнтра Амбасады ЗША ў РБ (г. Мінск).



Прынцып «мэйкерспэйса» - зрабі сам, жаданне ствараць сваімі рукамі. Быць стваральнікам, а не спажыўцом. Інакш кажучы - ад грамадства спажыўцоў да грамацтва стваральнікаў.

Жадаючыя з захапленнем рабілі вырабы трохмерных аб'ектаў пры дапамозе 3D-друкаркі і 3D-асадкі Doodler. Цікавасць ўяўляла і тое, што матэрыял які выкарыстоўваецца пры стварэнні аб'ектаў, нагадвае сабой плястык, але насамрэч выраблены з экалагічнага

прадукту – кукурузы, які з цягам часу раскладаецца ў глебе, не наносячы шкоды навакольнаму асяроддзю.

Вырабы зробленыя пры дапамозе найноўшых 3D тэхналогій уже выкарыстоўваюцца ў медыцыне, у мадэляванні архітэктурных канструкцый, у творчых гуртках, могуць разнастаіць ўрокі пры навучанні дзяцей у школах. У Кітаі пры выкарыстанні друкаркі 3D стварылі дом за суткі, праўда прынтэр – вельмі вялікіх памераў.

3D-друкарка была падараваная супрацоўнікам Інфармацыйнага цэнтра Амбасады ЗША абласной бібліятэцы імя М. Горкага.

## Семінар у Мікашевічах

27 жніўня берасцейскія праваабаронцы на запыт мікашэвіцкіх актывістаў правялі семінар па працоўнаму заканадаўству. Прысутных вельмі цікавілі пытані:

1. ўзаемаадносін работнікаў і працадаўцаў,
2. аб заключэні і працягненні дамоваў,
3. звальненняў.

На ўсе пытанні прысутныя атрымалі вычерпальныя адказы.

Асобна была ўзнятая тэма выбараў. Прысутныя пагадзіліся, што выбары, якія праходзяць у Беларусі не выклікаюць даверу з боку грамадзян. Іншая справа, што ў грамадстве расьце жаданне змены кіраўніцтва краіны, але людзі ня вераць у чэсныя і справядлівыя выбары.



# Ці будзе ўзбуджана крымінальная вытворчасць супраць члена ініцыятыўнай групы Віктара Цярэшчанка па факце падробкі подпісаў у падпісных лістах, ці не?

28 жніўня адбылося пасяджэнне Ленінскага раёна г.Брэста камісіі па выбарах прэзідэнта РБ па праверцы падпісных лістоў і подпісаў выбаршчыкаў для наступнай рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты Барарусі.



Па заканчэнні назіральнік Уладзімір Вялічкін пракаментаваў выяўлены факт падробленых подпісаў у падпісных лістах аднаго з кандыдатаў: «Кандыдата Таццяну Караткевіч на камісіі пахвалілі, маўляў, акуратна сабраныя подпісы, памылак амаль няма. Па кандыдату Віктару Цярэшчанка іншая адзнака – подпісы напісаныя адной рукой, адной асадкай, нумары пашпартоў мінскія, такіх людзей па пазначаных адрасах няма…

Цярэшчанка не навічок у палітыцы. Яму трэба больш уважліва ставіцца да падбору людзей у свае ініцыаціўныя группы. Выпадак з

падпіснымі лістамі, якія запоўненыя адной рукой, адразу кідаюцца у вочы. Падобную «мядзвядзіную паслугу» можа зрабіць хіба што правакатар, «казачок засланы» бо Віктар Цярэшчанка, я перакананы, даражыць сваёй рэпутацыяй.

Па словах статшыні ТВК Маскоўскага раёну Брэста Галіны Янголенка частку падпісных лістоў правярял адін с ЖЭСаў, а другую частку ўпраўленне ўнутранных спраў, факты несапраўдных подпісаў падтверділіся

На пасядженні камісія прыняла рашенні зрабіць ксеракопіі з гэтых запоўненых адной рукой лістоў і адаслаць іх у абласную камісію і ЦВК.

На маю думку камісія мае дачыненне з відавочным фактам падробкі дакументаў, тэарэтычна гэта цягне за сабой крымінальную адказнасць.

Зараз мяне цікавіць рэакцыя ўстаноў на відавочны факт злачынства, ці будзе ўзбуджана крымінальная вытворчасць супраць члена ініцыятыўнай групы Віктара Цярэшчанка па факце падробкі подпісаў у падпісных лістах, ці не.

## Участковыя камісіі фармуюцца па прынцыпу лаяльнасці да ўладаў

26 жніўня ў 15 часоў адбылося паседжанне выканаўчага камітэта, на якім разглядвалася пытанне утварэння ўчастковых камісіі па выбарам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па Ленінскаму районў г. Брэста. На паседжанні прысутнячылі назіральнік ад БХК Маргарыта Вялічкіна і Людзміла Дзенісенка ад БПЛ «Справедлівы Свет».

Слуханне па пытанні склада ўчастковых комісій прайшло за 10 хвілін. Дакладчык Капусціна Людміла Георгіеўна - -начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай працы, яна ж з'яўляецца намеснікам старшыні Ленінскай раённай г.Брэста тэрытарыяльнай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ, прадставіла праект на разгляд адміністрацыі. Члены адміністрацыі Ленінскага раёна прагаласавалі за прапанаваны праект адзінагалосна. Пытанняў з боку членаў адміністрацыі не задавалася, дакумантаў па вылучэнні ў склад УВК на пасяджэнні не было.



Людзміла Дзенісенка кажа «100% гарантыя нікаго з апазыцыі не ўключаць у выбарчыя камісіі. Нягледзячы на асабістыя якасці, на вопыт працы, на прафессіяналізм, у адпаведнасці з арт.34, 35 выбарчага кодэкса - фармуюцца ўчастковыя камісіі, але па прынцыпу лаяльнасці да ўладаў, па прынцыпу шматлікасці грамадскага аб'яднання, такія арганізацыі як Чырвоны крыж, Белая Русь, БРСМ, Беларускі саюз жанчын, Беларускі савет ветеранаў. Выбары на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праходзяць яшчэ больш жорстка.»

У той сама дзень і час адбылося, таксама, пасядженне ТВК Маскоўскага раёна г.Брэста, там у якасці назіральніка пысутнічаў праваабаронца Уладзімір Вялічкін. Ягоная лічыць, што: «Тэрытарыяльныя камісіі складаюцца з членаў, якія адлюстроўваюць інтарэсы выканаўчай улады. Я не змог пабачыць дакумантаў, якія пацвярджаюць вылучэнне прэтэндэнтаў у чальцы ўчастковых выбарчых камісій (пратаколы, выняткі з пратаколаў, заявы грамадзян аб вылучэнні прэтэндэнтаў). У той жа час я быў сведкам складання спісаў участковых выбарчых камісій задоўга да завяршэння этапу па

вылучэнні прэндэнтаў у склад УВК у прыёмных некаторых устаноў. То бок сакратарка атрымлівае заданне ад кіраўніка скласці спіс камісіі ад сваёй установы. У выніку работнікі аднаго працоўнага калектыву складаюць адну выбарчую камісію, хто нібыта ад грамадзян ці працоўных калектываў, хто нібыта ад праўладных палітычных партый ці грамадскіх аб'яднанняў, а месца працы адно! Падначаленыя баяцца кіраўніка, кіраўнік – свайго кіраўніка… г.зн. першапачаткова запраграмавана перамога дзеючага Прэзідэнта на выбарах. Ніхто ў гэтым не сумняецца.»

## ЖЭС-5 – «Грошы не смярдзяць…»




Старажытнія рымляне ведалі, што грошы можна здабываць рознымі шляхамі, і шляхі гэтыя былі як “брудныя” так і “чыстыя”. У сувязі з гэтым і з’явілась прымаўка “Pecunia non olet”, то бок “грошы не смярдзяць”. Супрацоўнікі ЖЭС-5 вышэйшых матэрый не засвойвалі, а таму крэатыўнічаюць у спагнанні грошаў з падданых жыхароў адпаведна сваім маральным якасцям.

2015/08/27 на пад'ездах дома №5 па вуліцы Савецкай Канстытуцыі ў г.Брэсце з'явіліся аб'явы-заклікі аплаціць жыллёва-камунальныя паслугі.

Жыхары дома абураныя такім абразлівым падыходам супрацоўнікаў ЖЭС па напамінку аплаты за жыллёва-камунальныя паслугі. Справа ў тым, што вінымі па аплаце жыроўкі апынуліся не злосныя неплацельшчыкі. Гаспадары згаданых кватэр не заплацілі жыроўку на працягу двух дзён пасля 25 чысла, а не трох месяцаў. У «злосныя неплацельшчыкі» трапіла цяжарная жанчына, якая ляжыць на захаванні ў бальніцы; маці-настаўніца дваіх дзяцей, яка зьбірае вучняў у школу, і ім падобныя. Магчыма, у жыхароў дома часовыя цяжкасці, але пільная ЖЭС-5 не дае расслабіцца.

## Вярхоўны суд вынес пратэст на рашэнне абласнога суда



Вярхоўны суд вынес пратэст на рашэнне абласнога суда г. Брэста, які асудіў фермера Бяльчука Аляксандра на тры месяцы арышту за непадпарадкаванне супрацоўніку міліцыі і нанясенне яму цялесных пашкоджанняў.

У пратэсце вярхоўны суд звярнуў увагу на недастатковую доказную базу па справе Бяльчука. У Брэсцкім абласным судзе будзе праведзена расследаванне, на што звярнуць увагу.

Нагадваем, што 4 верасня 2015 года ў Маларыцкім раённым судзе пачнецца слуханне па выплаце страхоўкі "пацярпеламу" міліцыянту Неліповічу.

У сувязі з новымі фактамі адвакат фермера падала заяву. Калі фермера Бяльчука апраўдаюць, ён будзе мець права на кампенсацыю як незаконна асуджаны.

## Выбарчыя камісіі прадстаўляюць інтарэсы выканаўчай улады

Сярод членаў выбарачных камісіях практычна няма прадстаўнікоў палітычных партыяў, што сведчыць аб тым, што палітык у нас у краіне адзін.

Усе выбарчыя камісіі прадстаўляюць інтарэсы выканаўчай улады, таму як грамадскія аб'яднанні і партыі, члены якіх прадстаўлены ў камісіях узначальваюцца членамі ўрада. Адпаведна закона 3-я частка складаецца з прадстаўнікоў ад выканкамаў, другая 3-я частка ад грамадскіх арганізацый і палітычных партыяў і трэцяя 3 -я частка ад працоўных калектываў і ад грамадзян.

Усе члены камісіў вылучаюцца арганізована, незаплянаваных

проста не разглядаюць, апошнія падставы: “мала досведу” ці арганізацыя малалікая.

Са “шматлікіх” маем “Белую Русь”, “Саюз Жанчын”, “Чырвоны крыж” і яшчэ пару. Калі паглядзець, хто ўзначальвае гэтыя “грамадскія аб’яднанні”, усё робіцца зразумелым, напрыклад:

Радзькоў Аляксандр Міхайлавіч - старшыня РГА "Белая Русь", ён жа Міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь у 2003-2010 гадах, у цяперашні час першы намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Беларусі.

Ермакова Надзея Андрэеўна - Старшыня ГА “Беларускі саюз жанчын”, яна ж старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь па 27 снежня 2014 года, у сакавіку 2015 абраная старшынёй назіральнага савета банка БелВЭБ.

Калбанаў Віктар Васільевіч - Генеральны сакратар Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа, ён жа першы намеснік Міністра аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

А хтосьці ў сродках масавай інфармацыі разважае аб роўнасьці, дэмакратыі і адкрытасці…

## Колькі каштуе свабода слова?

Аляксандр Лукашэнка і раней шмат чаго абяцаў, напрыклад, свабоду слова. У праекце “Месца для прэсы” беларускі медыя-эксперт Паўлюк Быкоўскі пракаментаваў чарговыя прысуды беларускім журналістам-фрылансерам, якія адбыліся пасля абяцання Аляксандра Лукашэнкі з гэтым разабрацца.

Прыгадаю, на сустрэчы з незалежнымі журналістамі беларускі кіраўнік сказаў, што судзіць журналістаў – гэта глупства.

Паўлюк Быкоўскі ўзгадвае іншыя абяцанні:

– Былі рознага кшталту выказванні адносна таго, што ён не будзе абмяжоўваць свабоду слова, але на працягу ўсіх гэтых гадоў здаралася розная каньюнктура: свабоды рабілася то болей, то меней, але агульная атмасфера мала мянялася. Таму я не думаю, што выказванні палітыка, нават, які знаходзіцца на такой высокай пасадзе, сведчаць, што будуць наўпроставыя наступствы.

Паводле Беларускай асацыяцыі журналістаў за апошні год ужо



каля 30-ці журналістаў-фрылансераў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці. Агульная сума штрафаў журналістам па артыкуле 22.9 частка 2 за бягучы год складае ўжо больш за сто сорак шэсць мільёнаў рублёў.

Журналістаў караюць за так званы “незаконны выраб прадукцыі СМІ”, а менавіта – падрыхтоўку інфармацыйнага матэрыялу для замежнага СМІ без акрэдытацыі.

http://www.racyja.com/hramadstva/kolki-kashtue-svaboda-slova/

## У Брэсце адбыўся пікет салідарнасці з палітычнымі вязнямі

Акцыя была праведзена сябрамі ініцыятыўнай групы па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты Сяргея Калякіна, а таксама актывістамі незалежнага прафсаюза працоўных радыёэлектроннай прамысловасці.

Удзельнікі пікету былі апранутыя ў цішоткі з надпісам “Свабоду Мікалаю Статкевічу” і распядалі жыхарам горада пра лёс палітычных зняволеных у Беларусі. Паводле актывістаў, звычайным людзям не хапае інфармацыі, пра тое, што ў краіне адбываецца пераслед асобаў, якія з’яўляюцца апанентамі цяперашняй улады.

“Шмат у каго пануе страх: грамадзяне не асмельваюцца адкрыта выказваць свой пункт гледжання на сітуацыю ў Беларусі, - распавяла адна з удзельніц пікету. – Але ж у тым, каб агучыць сваё меркаванне і патрабаваць выканання ўладамі сваіх абавязкаў, няма нічога крымінальнага і супрацьзаконнага”. Акцыя прайшла без інцыдэнтаў.

http://spring96.org/be/news/78996

# У Мікашэвічах затрымлівалі зборшчыка подпісаў за Таццяну Караткевіч

Каля 20 вечара 12 жніўня пры выхадзе з пад'езда дома №29 па вуліцы Першамайскай у Мікашэвічах быў затрыманы Леанід Дубаносаў, які збіраў подпісы за патэнцыйнага кандыдата ў прэзідэнты Таццяну Караткевіч. Затрымаў старэйшы лейтэнант Аляксандр Арэшкевіч, які і даставіў яго ў Мікашэвіцкі ГАУС. Затрыманне супрацоўнік міліцыі абгрунтаваў нібыта званком у міліцыю, што Дубаносаў збірае подпісы ў стане алкагольнага ап'янення. Арэшкевіч убачыў, што Леанід Дубаносаў цвярозы і сказаў, што не павязе яго ў бальніцу на асведчанне, але павінен завезці ў міліцыю для складання пратакола апытання.

У міліцыі Дубаносаў запатрабаваў складання пратакола па-беларуску, чаго Аляксандр Арэшкевіч зрабіць не змог. Таму пратакол складаў лейтэнант міліцыі Руслан Кавалеўскі.

Затым усё ж вырашылі праверыць Дубаносава на наяўнасць алкаголю і павезлі ў бальніцу. Вынік быў адмоўны. У сваю чаргу Леанід Дубаносаў першапачаткова напісаў скаргу на ст. лейтэнанта Арэшкевіча за тое, што ён неабгрунтавана яго затрымаў, тым самым перашкодзіў збору подпісаў за Таццяну Караткевіч. Дзяжурны маёр Віталь Капціла сказаў, што пазваніў ім і даў ілжывую інфармацыю оперупаўнаважаны Мікашэвіцкага РАУС старэйшы лейтэнант Сяргей Дашкевіч, да якога ў кватэру за подпісам заходзіў Дубаносаў. Тады Дубаносаў адклікаў заяву на Арэшкевіча і папрасіў прыцягнуць да адказнасці за ілжывую інфармацыю Сяргея Дашкевіча.

http://spring96.org/be/news/79212

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»